## ПРОЗА ВЕРША

На вершы пацягнула, кажуць мне.
А як па мне – якія будуць вершы,
калі нікому, нат сабе не верыш,
калі нішто за сэрца не кране,
не ўскалыхне душы зацятай неруш.

На вершы пацягнула…
Ды са мной,
як і мне з вамі, проста, без пагрозы,
пагаварыць бы на цвярозы розум,
каб не замазваць ісціны маной,
звычайнай, шчырай, лабавою прозай..

Магчыма, дойдзе…
А пакуль няўцям,
што не да вершаў, калі дух галодны,
а сэрца лёдам самым найхалодным
астуджана.
Сярод зімы хаця б
адчуць яшчэ:
і ты на нешта годны!

На вершы пацягнула…
Можа й так.
Руку цягну да Музы, як жабрак.

ДУМКІ

Прыгожаму не трэба ўпрыгажэнняў,
як доказу для мудрасці не трэба.
Ды слова праўды з часам даражэе,
а ў кошце, дай Бог, разабрацца небу.

Ад веку ў век жылі, нібыта ў чэргах,
праз пакаленні гледзячы наперад,
каб ніц упасці ў тлумнасці вячэрняй,
скарыцца лёсу і пазбыцца веры.

Прасцей сказаць, што не хапае сілы,
што не стае трывання ў гэтым гоне,
і ўсё дарэмна, кожны дзень панылы,
і заўтра будзе хмурным, як і сёння.

Адно, што і было, і ёсць бясспрэчным,–
жыццё,– як ні круці, адно такое…
Для вечнасці існуе толькі вечнасць,
а гэта – не знак роўнасці спакою.

І нас у згодзе й ладзе нараджэння
Яднае сонца, нібы бохан хлеба.
Прыгожаму не трэба ўпрыгажэнняў,
Як доказу для мудрасці не трэба.

*****

З пагардай і абразаю маўчком
Спажыць свой час, што дадзены ад веку,–
Адно найменне стане з чалавека,
Калі да кону прыйдзе жабраком .

*****

Ідзе жыццё,
нібы вада цячэ,
ці то канавай,
ці жывою рэчкай.
Ды застаецца
для нашчадкаў спрэчным:
Што лепей:
быць канаваю? –
лягчэй!
Ці ў самасці сваёй,
жывой, адвечнай,
імгненнем кожным
берагам пярэчыць?

## ПЫТАННЕ ДАРОГІ

Сваё неразуменне вышыні
спрабуем адмаўляць ад кон-парога.
Пакуль жыццё, нібы абрыў-дарога,
не скіне нас на дно, у нашы дні.

Глядзім штодзень у шэрае акно –
спадзеў
на сонца краскі залатыя –
ды ўсюды бруд,
і гразь,
і мат адно:
і час не той, і людзі ўжо не тыя.

А хочацца і ласкі й цеплыні,
і хоць крыху  спагады чалавечай…

Ды адусюль, як з цемрыва, – ані!

Калі і хто душу нам так знявечыў?..

## ДУМКА

Ён аднамерны – гэты свет.
Як ні крутнеш, куды ні кінеш,
хоць і ступаеш след у след,
але… быў старт, і будзе фініш.

Мы – і пачатак, і працяг.
Мы – забыццё, і мы – надзея.
Ды на дыстанцыі жыцця
мы толькі дробязная дзея.

## АБЛОКІ

Трывожыць восень цяжкасцю аблокаў,
што з неба паніжэлага сышлі.
Чаму сягоння вы з вышынь высокіх
прыйшлі на спавяданне да зямлі?

Нялёгкі шлях, ды ўсё ж марудзіць неба…
Паспавядацца б як за кожны дзень.
Слязой-дажджом даўно праліцца трэба,
ды хто на споведзь прыме іх і дзе?

## ДАРОГА ДА ЛЕТА

Вясна. На цяпло, здаецца,
Даўно павярнуцца трэба.
Ды вецер, халодны вецер,
Зусюль – і з зямлі, і з неба.

Стараемся затуліцца,
Каўнер настаўляем вышай.
Так хочацца не памыліцца –
На горшае каб не выйшла.

Не цепліць, не грэее слова,
Дашчэнту прамерзлі душы…
А веры – былой ці новай –
Няма…
            Ад нявер'я – душна.

Вясна над палескім краем –
Ад холаду-зла – адкаснуся!
З вясновым птушыным граем –
Вясна над маёй Беларуссю!

## Я, ДОЖДЖ І СКРЫПКА

Ты са мною пабудзь,
летні дождж.
На дыханні тваім я сыграю,
аж гукі ахрыпнуць…
Пойдзеш ты,
 я пайду. Ну і што ж…
А заплаціць, адплача ўсё скрыпка.

Маіх дум, маіх мар
не трывож.
Разбяруся я сам без пахібкі.
Ты даруй мне за ўсё,
летні дождж…
А заплаціць, адплача ўсё скрыпка.

Развітання туга,
але ўсё ж
не адолець мяжы мне той хліпкай.
Не шкадуй мяне – не!
Летні дождж…
А заплаціць, адплача ўсё скрыпка.

## ВЕЧАР

Адпрэчыць ноч няма ні сіл, ні змогі.
Таемніць бездань звабная мяне.
І ўсе лятункі, радасці, трывогі
у гэтай прорве, нібы друз, на дне.

Так цягне галаву наніз, дадолу
ў запозненым паклоне ад жыцця.
Як  той кароль, я перад светам голы.
Гляджу на дно – шукаю там працяг.

Гарчаць ссівелым палыном хвіліны
ў адвечнай неспатоленай журбе.
Святло і цень, як ноч і дзень, – адзіны.
Я паміж іх у пошуку сябе.

## ШЛЯХ

Гады бяруць сваё, і ўжо на восень
жнівом дачасным выкіруе лета,
хоць палатном маіх жыццёвых кросен
не ўсё, што дарагое мне, сагрэта.

Ды задажджылі дні і стынуць ночы,
і верасы палаюць апантана...
У вечары асеннія пакрочыў
праз дзень жыццёвы
мой вясновы ранак.

## ЯШЧЭ НЕ ВЕЧАР!

Спакон ад ранку сонца йшло на вечар
і спакон веку ноч змяняла дзень.
Дазнацца б мне: за што нас, як і дзе
ўсявышні ці калечыць або вечыць.

Ні праўдаю святой, ані падманам,
смяротнаму, таго мне не дайсці,
што лёс кіруе намі па жыцці
ад веку ўладнай сілаю тырана.

І як стрываць, калі, што ні пасееш
на спадзяванне руні ад сябе,
у час жніва, чаканы па сяўбе,
наўрад ці каласы сабраць паспееш.

Няўжо спакон і сапраўды навечна
раскрыжаваны лёсам чалавек!?
Хоць дзень за днём мяняе новы век,
трымаюся на тым: яшчэ не вечар!

## ПЕРАДНАВАГОДНЯЕ

Сваю заканчвае дарогу
Няспешным крокам год дзевяты,
І ў шэрых, змрочных днях трывогі,
Напэўна ж, ён не вінаваты.

Яны былі, трывогі тыя,
Дзе з горкім смуткам, дзе з адчаем.
Мы ж проста людзі – не святыя,
За ўсе трывогі выбачаем.

Жывём на сподзіве надзеі,
Хоць веры ў заўтра малавата.
А што хамут на нас надзелі –
Няўжо ж мы самі вінаваты?

Хацелі ж так дайсці да веры,
Каб сваю хату знаць не госцем.
А лёс аднолькава адмерыць
Для ўсіх нас  месца на пагосце.

## ПАРА!

Чего стесняться в своем отечестве?
Ул.Маякоўскі

Стагоддзе –
сюды,
стагоддзе –
туды..
Час –
на мільёны
мерае.
Пра-
і пра- пра-
і пра- пра-гады
якою
мацуюцца
вераю?

Жывём
і думаем –
яшчэ не час...
не наш яшчэ...
ну, можа,
не гэтым разам...
а ён прыйшоў
і – па мордзе нас!
не палічыце,

шаноўныя,
за абразу.

Стагоддзе –
сюды,
стагоддзе –
туды..
Час…
На крыжы –
пакаленні.
Праз-
і пра- пра-
і пра- праз гады
Стаім,
як рабы,
на каленях!
Жывём
і думаем –
яшчэ не час?!
не наш яшчэ?!
ну, можа,
не гэтым разам?!
Пара,
шаноўныя,
даць адказ
І не размазваць
па твары
Абразу!

## ЛІПЕНЬ

Развіднее…
І дзень, здаецца, бярэ сваё.
Усход, як дакляруе каляндар, –
у 5.08.
Быў, мінуў…
Ці не было?!
Аблажна,
сыра
і маркотна.
Без сонца…
Дзе ж яно ўзышло?
Чакалася і тут.
Ды дзень сваё бярэ.
Ён будзе доўжыцца
ажно 16.39!
Па тым –
хавацца будзе сонца
за луг, за лес, за…
Дзе ж яму хавацца,
калі яго не бачыў аніхто
праз цэлы дзень,
цалюткі доўгі дзень,
ажно 16.39!
(Гадзін з мінутамі).
І ўсё ж –

а дзень бярэ сваё.
Заходзіць сонца –
сведчыць каляндар:
 дваццаць адна
і сорак сем хвілін…
І пашпарт:
ліпень,
3 - га,
2009 - га,
Дзень Незалежнасці.
І мы…

# ДАРОГА ДА СЯБЕ

О, як далёка нам яшчэ
да Беларусі…
Ніл Гілевіч

На дарозе адвечнай – крыжы адно,
і адзнакаю часу – вякі.
–Хто такія?– на стук у вакно –
–Лёсам гнаныя – жабракі…

Працягнулі руку і просімся,
ды хаціны сваёй – анідзе.
А дзе ж нашыя вёсны-восені?
Ды і лета з зімою – дзе?

Тут з Грамніцамі – там з Купалаю;
там Вялікдзень, тут – цені Дзядоў.
Сам Бог ведае: многа ці мала нам
да свайго ўразумення гадоў.

На дарозе даўгой даверліва
парастрацілі шмат чаго:
недавяркам даверылі веру мы,
самахоць узышлі на агонь.

Ну дык хто там ідзе?
І куды ж ім ісці?
Беларусы!
Мы – не жабракі!
Уратуемся з беларускасці,
як Багрымавы жаўрукі.

## ПОСТАЦІ

Шлях стагоддзяў мільёнамі мосціцца.
Праз вякі на вякі – наш мост.
А радзіма крыжамі пагосціцца –
Не падняцца на поўны рост.

Нашай спадчыны мы ці вартыя,
Калі слова не зберагчы?
Хто якою пільнуе нас вартаю,
Што паўсюдна, заўсёдна маўчым?

Талерантныя, памяркоўныя..
Мёд атрутны лагодзіць слых.
У краіне сваёй бязмоўныя –
Ад каго ж такі ўдар пад дых?!

Так няпроста, нялёгка наўпрост ісці,
Свой цярэбячы шлях і след.
Аглядаюся – мудрыя постаці.
Углядаюся – запавет.

ЦІСКАНІНА

Горад. Вуліца.  Еду ў тралейбусе.
Цесна. Віснуць на мне ну амаль усе.
Ператомленыя. Заклапочаныя.
Зацісканыя. І самі ціснуцца.
Зафабрычаныя. Зарабочаныя.
Што ні піскнуць, ні перапіскнуцца.
Бы ў мяшок усіх панаціснута.
Церпім *транспарт* з ціхмяным піскатам.
...А сумленне нашчэнт расціснута.
Моўце слова, пазбаўцеся віскату.

## САНІ

*Глядзець на паповыя сані –
быць пры смерці (фразеалагізм)

*Каціліся, коцяцца сані...*

На версе самым –
Вы  – самі.
А вы не пыталіся, пане,
куды панясуць вас сані?

*Каціліся, коцяцца сані...*

А вы не пыталіся, пане,
дазволу на гэтыя сані...
На месца ў шыкоўных санях.
Ці можа, на зломе лета
забылі, шаноўныя, самі,

*што коцяцца,коцяцца...*
гэта –
*Паповыя сані?*

## НАСТРОЙ

Мінск. Вакзал. Мітусня.
Шум. Вакзальная плошча.
Вецер прастору абняў,
нахабна плакаты палошча..

І недаўмецца яму,
задзіры, зуху, гуляку,
што распрануў саму
прылюдна
плошчу да знаку.

# ВЯСЕЛЛЕ

Ліпень ліпне да спіны ліпкай,
з кветам ліпавым ліпне мёд…
Аж  заходзіцца ў спеве скрыпка,
непрытомнее ў скоках народ.

Што там поўдзень гарачага лета:
не зважае на спёку люд…
Развяселеная планета
сёння ў танцы шчыруе тут.

Квет мядовы на дол ападае,
і ў наліве шчаслівым сады…
І не верыць яшчэ маладая,
і няўцямны яшчэ малады.

*****

Прастора часу,
дадзеная звыш,
не ўсведамляецца,
пакуль – жывыя..
Калі ж, аднак,
да кону дабяжыш,–
прая'сніцца:
яшчэ
жывы
Я!

## НАЧЛЕЖНЫ АГОНЬ

Дзяцінства час: жытнёвы колас
Наўкруга вёску паланіў,
І ля жытоў таемны голас
Страхоціў сэрца пры агні.

Агонь пры зорах; чуйна коні
Дыханнем п’юць траву-расу
І з маёй дрогкае далоні
Бяруць-цалуюць хлеб-красу.

Агонь начны: ён зыркі, палкі.
З гаворкай час плыве-ідзе…
– А ў жыце тут жывуць русалкі…
Ну, кажуць, што яшчэ ў вадзе.

Ці днём яны, а болей ноччу –
Закаласуе жыта ледзь –
Пільнуюць вас, такіх ахвочых
Перад усімі страх здалець.

Вы смелякі, пакуль у гурце,
А так, самохаць, сам-адзін,
Хоць каля жыта паспрабуйце,
Як хопіць смеласці, прайсці.

А калі не – нашто вы варты:
У вас ні смеласці, ні зла –
Аніякога няма гарту –
Вы слабакі,– гаворка йшла.

– Няўжо там ёсць русалкі гэты?
Ну жыта жытам, а каб хто
У жыце іх пабачыў летам?!
Ды не прызнаецца ніхто.

– Яны цыцкатыя такія,
А прыгажуні – пашукаць,
І валасы даўгім-даўгія,
Што не ўтрымае іх рука.

Але ж калі яна пакліча
Цябе, дурноту, да сябе,–
Так заласкоча, заказыча,
Так засмяе і заскубе,

Што ўсё на свеце, нават волю,
Гатовы ты аддаць-прадаць
За міг русалчын, за няволю,
Якую сам не змог спазнаць.

Ах як свавольна каля жыта –
З русалкай разам,– ну і што ж!

Агонь гарыць – жыццё пражыта…
А прысак… прысак не трывож.

ТОЕ І ГЭТА

На свеце *тое* ёсць –
віны маёй няма ў тым.
Але, што й *гэта* ёсць, –
я ні-не вінаваты.

*Хто* вінаваты *ў тым,*
*што* вінавата *ў гэтым?*
У *тым* я быў пусты,
*а ў гэтым* стаў паэтам.

*У тым* адзін я быў –
хто, што – і сам не знаю.
*У тым* – я палюбіў,
а *ў гэтым* я – кахаю.

Я там, дзе *тое* – госць,
дзе з *гэтым* – наша хата.
Я там заўсёды ёсць,
дзе ў кожнай хаце – свята!

ЗОЛАТА

Вінавачу сябе: святынямі
я не тымі, відаць, даражыў,
што на золаце слова-імені
сёння бачу налёт іржы.

Кожны збоку, а нехта наперадзе.
І не ў цэнтры, а быццам паўсюд.
Так і будзем пры сённяшнім верадзе
ўсведамляць беларусаў як люд.

Станьма разам у стройныя шэрагі,
рукі сціснем, далонь у далонь.
І яшчэ над абрывістым берагам
падтрымаем світання агонь.

Ды чаму ж мы растрацілі золата,
што трымала нас праз вякі?

Наша слова – не перамолата,
наша слова мацней за золата –
падымае ўверх кулакі!

## АСЕННЯЕ

Стамілася душа ў чаканні свята.
І ў шэрых сценах шэрага пакоя
стаілася.
Са мной.
У цішыні напятай
наўрад ці што нас зможа заспакоіць.

Не студзіць думак нават шыбін холад.
І сум прамоклага дарэшты саду
Прынік да шкла.
І цэдзіцца наўкола
халодны, мокры смутак лістападу.

Ад шалу вуліц моўчкі адышлі мы,
ад холаду вачэй, спадману ценяў
і тут, у цішыні, з табою цэнім
жыццё, як дзень, які праходзіць міма.

Зашмат з табою, мабыць, мы гарэлі,
каб хоць крыху сагрэць таго, хто з намі.
А дня свайго, на жаль, не абагрэлі…
А зараз – восень.
Стынь.
Пакой.
Мы… самі.

## ВЕЦЕР ЧАСУ

Пазбыцца б наноснага тлуму,
Адчуць, што марозіць восень,
Хаця да зімы яшчэ досыць
На сэрцы прамоклага суму
Кастрычніка і лістападу…

Пазбыцца б наноснага тлуму.

То з поўначы вецер, то з поўдня,
То жартам ён, то сур'ёзна
Даводзіць-гудзе:
Ці не позна
Нам
пра мінулае ўспомніць.
Дай, божа, нам добрую раду!

То з поўначы вецер, то з поўдня…

## ЖЫВЁМ У ДОЎГ

Жывём у доўг, які адплочваць трэба
жыццём сваім і марамі сваімі…
І што з таго, што пад высокім небам
свяціла зорка з вашым светлым імем.

Жывём у доўг… Чаргу расчараванняў
і недаверу да жыцця самога
нам памяняць бы на цяпло світання,
на міг найкарацейшы дня зямнога.

Жывём у доўг… Ды злыбеды і звады
і так кароцяць век, вядуць да скону.
А мы суседзям і сябрам не рады
ды і бацькам не аддаём паклону.

Жывём у доўг… А нелюдзі і людзі –
хто басанож, хто ў ботах – топчуць пожні…
Дык чым плаціць, шаноўныя, мы будзем,
калі сустрэне нас наш дзень апошні?

Жывём у доўг…

ПАЛЁТ

Сарваўся з арбіты
метэарытам.
Імчу праз пекла
Сусвету.

Пакуль не згарэў
дарэшты,
адкрыйся:
Ну, дзе ты?
Дзе ж ты?

Грымела,
кіпела,
стагнала
жыццёвых абставін
навала...

З вышынь прагучала
нарэшце:
- Паўднёвы захад
Бярэсця.

ШПАКІ

Так шпачыха крыллейкам трапеча,
што вясна ніякавее ўміг!
Жаніху-шпаку па-чалавечы
раннем веснавым зайздросцім мы.

Можа і вярба таму так гожа
прынявесцілася ў гэты час,
завушніцамі ўвесь свет прыгожыць
і на свята запрашае нас.

Горды шпак, прасветлая шпачыха,
хай вярба дзяцей люляе вам!
Нам жа пакланіцца трэба ціха
ўсім жыццёвым спаконвечным дням.

Свет вясны як  прадаўжэнне Роду
ашчасліціць нас і ўхарашыць,
дасць усім лагоднасці і згоды,
і святла, і дабрыні душы.

## САСНОВЫ БОР

Час пад коламі – дарогай.
А на сэрцы – шчым-трывога.
Мы Сасновы Бор вітаем –
Нас ён ветла прывячае.

Хай заўсёды шчасна будзе
Добрым,
                    шчырым,
                                        светлым
Людзям
Там, дзе кожная сасонка
Мкне да сонца станам гонкім.

Там, дзе крокам асцярожным
Ступіш ты на луг мурожны,
Дзе зімою, а ці летам –
Ты сябрынаю сагрэты.

Там, калі ні завітаеш,
Сэрцам шчырасць адчуваеш,
Бо з табою спеўна-звонка
Бор з бароў вядзе гамонку.

## ЯСЕЛЬДА

Там, дзе стагоддзяў плаўныя кругі
Буслы крылом вядуць у паднябессі,
Дзе Ясельда хавае берагі
Ў разліве нестрымана-бурным веснім;

Там, дзе спакой струменіць праз вякі,
здароўем поўніць і душу, і сэрца,
дзе жаўрукі ў палёце трапяткім
заходзяцца сваім высокім скерца;

там, дзе лугі ў аздобе дзьмухаўцоў
спакояць сэрца і лагодзяць вочы,
дзе вецер травы-струны грабянцом
настройвае на песню днём і ноччу,–

там, дзе жыццёвы палатна сувой
на кроснах лёсу выткуць маладзіцы,–
там што ні вёска, то парадак свой,
што ні гаворка, то вякоў крыніца.

Там Здзітава – парог усіх дарог –
да Спорава вядзе, на Старамлыны…
Там немаўлят замешвае сам Бог
з над'ясельдзянскай  самай светлай гліны.

Там спаконвек карэніцца наш род
у пашаноце крэўнай і нязводнай.
Там жыў, жыве і будзе жыць народ
сярод людзей, па-людску, вольна, годна.

ВАЛІШЧА

Адзнака часу – памяць спее
І ўсё часцей мяне вяртае
да сцежак тых, што не паспелі
мяне забыць… іх памятаю.

І ўжо вітаюся з дарогай,
Цяжкою,
                у асфальт забранай,–
такой не помняць мае ногі,
не знае мой жыццёвы ранак.

Прысады – во! – павырасталі.
А лаўкі з вуліцы ўсё тыя:
І валішчане ў прывітанні,
Задумна-мудрыя, святыя.

Я не забыў вас, не пакінуў,
Што б людзі там ні гаварылі.
І да матулінай хаціны
Іду паўз могілкі старыя.

СНЕЖАНЬ 2009

А ў Берасці заснежыў снежань,
мароз узяўся не на жарты
і вецер недзе з Белавежы
завею выганяе ўпарта.

Нязвыкла неяк: нос і вушы
труць разявакі, гнурацць плечы…
Хаця– найперш сагрэць бы душы
у гэтай стыні чалавечай.

## ДАРОГА ДАДОМУ

Гасцінец з Івацэвічаў да Пінска.
Прыпынак у мястэчку Целяханы.
Далей – Азарычы, канал Агінскі
І вось Валішча – край улюбаваны.

Шафёру – шчыры дзякуй за дарогу!
З людзьмі і я з аўтобуса – ўжо дома.
І як патульна пачуваюць ногі,
Як быццам за гады не зналі стомы.

Іду – здароўя!
                    І паклон – наўкола.
А вокны ў хатах так глядзяць задумна.
–То ж, мусіць, Верын хлопец?
–Ён, Мікола…
–Сівы зусім…– жанкі ўздыхаюць сумна.

Як лёгка дакранацца мне душою
Да Вашых душ і сэрцаў, дарагія.
Хаця даўно не маладзён ужо я,
А Вы, здаецца мне, усё такія.

–Дарогу по-о-омніць…
–Мудрыя мае Вы!
Ды хто ж забудзе смак тае дарогі!?

Яна ў крыві з часоў Адама-Евы –
Наканавана, даравана Богам.

Не абмінуць – вядзе праз памяць вострa,
Паўз могілкі, пакінутыя хаты…
Даруйце, землякі, даруй мне, вёска!..
Я перад Вамі – самы вінаваты.

## **На мяжы расстання і сустрэчы**

### СЦЕЖКА ЖЫЦЦЯ

Не шукалі мы слоў, каб змовіцца.
Проста сцежка жыцця – на дваіх.
Столькі суму і шчасця ў вачах тваіх –
Ты даруй мне, мая ты змоўніца.

Бы крынічка, відна да дна – уся.
Прахалода да вуснаў горнецца.
Да цябе, да галубкі-горліцы
Я дыханнем сваім дакранаюся.

Можа быць, не ўсяго адолеем,
Ды прашу: хоць акінься калі,
Бо на гэтай спрагнелай зямлі
Мелі радасці болей, чым болю мы.

Ты даруй…

ПАДКОВА

Сустрэліся нібыта выпадкова.
Здаецца, што не бачыліся век!
І зразумелі: нашая падкова
Зноў павярнулася канцамі ўверх.

Нішто пра дні растання не напомніць,
Падкова, як жыццё – маё, тваё –
І кліча нас, і просіць нас напоўніць
Падкову-келіх шчасця да краёў.

На разуменні, што дурных памылак
І страт, на жаль, не ўніклі ты і я,–
Так хораша пачуць:
Дзень добры, мілы!
Так шчасна мовіць:
– Любая мая…

Сустрэліся, здаецца, выпадкова.
Хаця ўзаеміны – каторы век.

# СВЯТЛО

Выпадковай сустрэчаю
паяднаныя ўміг.
І даўно ўжо штовечара
ночы молімся мы.

Хай даруе нам раніца –
так дачасна прыйшла –
нам хаця б не параніцца
ад кахання святла.

## ДАРОГА СНЕГУ

Так лёгка, мякка светлы сыпаў снег…
Ён і не сыпаў – церушыў памалу.
Так неабачна мы ўспрымалі смех –
шчаслівы смех – нам на дваіх хапала.

Зіма зімою – вецер і мароз.
Для пацалункаў – ну, якая шкода!?
І горача, і холадна – да слёз,
але яднае нашы сэрцы згода.

І кожны раз: на яве а ці ў сне,
нібы мадонна, сходзіш ты з нябёсаў…
Так лёгка, мякка светлы сыпле снег…
На вуснах растае дарунак лёсу.

*****

Лёгкай аблачынкай ахінае смутак.
Ехаць недалёка, не за край зямлі.
Невядома толькі, круціць лёс чаму так.
А жаданню сэрца спраўдзіцца калі?

Ехаць недалёка, не за край зямлі,–
ды ў жыццёвым моры тых дарог без ліку.
Каб жа сваю сцежку ведаць мы маглі…
Ды не маем выбару – часу кошт вялікі.

Невядома толькі, круціць лёс чаму так,
што няма супыну ані ўноч, ні ўдзень.
Далягляд жыццёвы як туман ахутаў:
не прабіцца сонцу…
Дык адкуль жа цень?

А жаданню сэрца спраўдзіцца калі?
Затулю ад ветру, захіну ад сцюжы,
толькі будзь са мною, цёпла прытулі…
Вер, што ўсе нягоды разам мы адужым.

Лёгкай аблачынкай ахінае смутак.
Ехаць недалёка, не за край зямлі.
Невядома толькі, круціць лёс чаму так,
а жаданню сэрца спраўдзіцца калі?

## ПРАДВЕСНЕ

Напрадвесні – а быў канец лютага –
ды тэрмометр у мінусе ўзрос,
ты прыйшла да мяне, пачутага
праз мяцеліцу і мароз.

Не былі мы нязгодай зацятыя.
Боль расстання – даруй мне яго…
А далоні твае птушанятамі
гасяць скроняў маіх агонь.

Ах, якою высокаю песняю
з-пад нябёсаў – птушыны грай!
І вяртае нас напрадвесні нам
абнадзеены небакрай.

## СПАКУСА

Вітацца вуснамі – спакусна…
Мы разам душ яднаннем дрогкім
прэч адкідаем тую пустку,
што нашы развяла дарогі.

Няма мяжы – пераарана…
І ўжо ля сэрца сэрца б'ецца.
А са світаннем юны ранак
ядранай раніцай бярэцца.

А там, на сонечным усходзе,
туман – загадкавым абрусам.
І ў гэтай светласці і згодзе
так хораша вітацца вуснам!

## НЕ ВЕДАЮ

Я ведаю – не спіш…
Акно расчынена,
прытушана святло –
мінуўся дзень.

Ты стоена маўчыш.
Адно магчымая
у тым,
дзе ўсё было…
Мінуўся дзень.

## ПЕВЕНЬ

Здаецца мне, стаміўся маладзіцца,
і ў гамане гучаць пустыя словы…
Як толькі ж усміхнецца маладзіца,
як певень, я ўзляцець на плот гатовы.

Хоць кукарэкну, натапыру грэбень,
крылом, наколькі моц, залапачу я…
А можа, я каму яшчэ патрэбен?
А можа, хто яшчэ мяне пачуе?!

*****

Дзянніца..
Ці вечарніца…
А зорка
на ўсім
на свеце –
любімым,
жаданым,
верным,–
усім,
хто ў каханне
верыць,
з вышыняў Сусвету
свеціць!
ВЕНЕРА.

*****

Так пахне кава!..
Кубачак прыгубіш –
і рук тваіх нябачнае цяпло
кране, як пацалункам, мае губы…
Здаецца, што на яве ўсё было.

Так пахне кава…

*****

Я – на сваім стаю…
А ты – трымаеш слова свайго ўпарта.
Няўцям дваім, што слова, шчасця вартае,
павінна пад надзейнаю быць вартаю.

*****

Я не кахаю Вас, я Вас люблю…
Н.Мацяш

Недаравальна ахвярую ўсім,
на што ну аніяк правоў не маю,
каб Вам сказаць хоць позіркам адным,–
я не люблю, я Вас кахаю.

І ў тым дыханні, што вясна дае,
і ў апантанай зеляніне гаю,
для Вас шапчу, для Вас для аднае,–
я не люблю, я Вас кахаю.

І можа, гэты свет не для мяне.
Я можа ў тым лятункамі вітаю,–
маё прызнанне Вас хай не міне,–
я не люблю, я Вас кахаю.

ПРЫЧАСЦЕ

Валенсія бурштынам вінаграду
з настроем светлым поўніць келіх звонкі.
Здаецца, што ўся моц бунтарнай гронкі
Напоўніла, як сонца, нашу радасць.

Адныя і адно: мы так хацелі
і ў цеплыні лагоды й згоды хваляў
ад пачуцця нічога не хавалі
і ні на міг не трацілі надзеі.

І ўсё прайшло, і ўсё прыйшло нанова.
І льецца ў келіх хмельнае прычасце…
З гарчынкаю янтарнай наша шчасце –
прыгубім ціха…
І не трэба слоў нам.

## ЯЗЫЧНІКІ

Здаецца, толькі што былі мы разам
І столькі згоды і цяпла дарылі
Вачамі, сэрцам, думкамі адразу,
Як быццам бы наноў сябе тварылі.

Чамусьці сонца – так было заўсёды –
Хоць на хвілінку выглядала ветла
І расхінала хмуру-непагоду
І за акном, і ў нашых душах светлых.

Агонь паганскі ўспалымню як трэба
І, як язычнік, усхвалю Дажбога:
Няхай заўсёды нас пад гэтым небам
Адзіная вядзе ў жыцці дарога!

## *ВЯСНА*

*****

Першацветам-кветкай –
а ці ўдзень, ці ўночы –
чысцінёю светлай
радуеш ты вочы.

Сонейкам чаканым
і жаданай весткай
мой абудзіш ранак
жаўраначкі песняй.

Разам са мною
будзь, калі ласка!
Кожнай вясною
светлаю казкай.

Хмель гэты весні
вып'ю да донца.
Ты – мая песня.
Ты – маё сонца.

## АГУ…

Замест калыханкі

Праз усю ноч да саменькага дня –
самоціць восень ці вясна шчыруе –
лагодна вечар цішыню абняў
і ўсё дарэшты дарагой даруе.

Магу ці не магу…
Агу…
Прашу і сонца я, і неба:
у дні мае прыйдзі як-небудзь,
у сны прыйдзі, што берагу.
Магу ці не магу…
Агу…

Магу ці не магу…
Агу…
У дні мае прыйдзі як-небудзь,
у сны прыйдзі, што берагу.
Агу…

Свавольны вецер весніцы адкрыў –
ну, самы час, каханая, выходзіць…
А на вітанні светлае зары
мы скажам дзякуй гэтакай нагодзе.

Магу ці не магу…
Агу…
Прашу і сонца я, і неба:
у дні мае прыйдзі як-небудзь,
у сны прыйдзі, што берагу.
Магу ці не магу…
Агу…

Магу ці не магу…
Агу…
У дні мае прыйдзі як-небудзь,
у сны прыйдзі, што берагу.
Агу…

## МАГЧЫМАСЦЬ

Ты мог мне пазваніць?
Навошта адгаворкі.
Май ласку – не мані.
І так на сэрцы горка.

Ты мог мне пазваніць!
Шукаю я спакою
Ў самотнай цішыні
Халоднага пакоя.

Ты мог мне пазваніць…
Але.. вачам не веру…
Ды хтосьці адчыніў
Замкнёныя мной дзверы.

## ВЕРАСОВЫ СОН

Адпалалі, адружавелі
верасы на палянах лясных,
толькі памяць настоеным хмелем
зноў вяртае ў далёкія сны.

Як раскошна, захоплена верас
цвіў, палонячы сэрца й душу…
так хацелася ў шчасце паверыць,
ды вярнуцца назад не прашу.

Што было, – адцвіло, адпалала.
Дзякуй небу за наша святло.
А было яго – многа ці мала –
Не галоўнае.
Важна – было!

*****

Стамілася мара пра сонца
ў чаканні бясхмарнага неба.
Час хутка на лета паверне,
а пачуццё
не сагрэтае,
не сустрэтае...

Ледзь ветрык хмурынку рассунуў–
і лісцейкі кволыя выпырхнулі.
Як хораша, цёпла пад сонцам!
Ды раптам
пахаладала,
захмарыла,
задажджыла...

*****

Святою справай доўжыцца вясна:
Па боскай волі адмысловым чынам
у сакавіцкай квецені яна
ўзняла над светам велічна жанчыну.

Як на абраз прасветлы, на вяку
ў паклоне ёй, ахвярнікі-мужчыны,
маліцеся й маліцеся!..
Пакуль
такая дадзена для вас магчымасць.

ПАРАЗУМЕННЕ

Сваіх сэрцаў і душаў панеслі агонь
мы насустрач жыццю светлай раніцай роснай
і ў яднанні сваім век не страцім яго,
добрым днём прывітаем жаданыя вёсны.

Падары мне свой пагляд,
на арэлях-снах пагушкай.
Павядзі за далягляд
па чароўную жар-птушку.

Па жыцці нам з табою дарога адна:
нам адвеку яна – светлай зоркаю-знакам.
Нашых сэрцаў і душаў не раз’яднаць
ні віхурам шалёным, ні бурам ніякім.

Лёгка вуснамі крані,
для душы душу разнасцеж!
Даланя– у далані…
Што яшчэ лічыць за шчасце?

## ПАКЛОН ВЯСНЕ

Галіне Мікалаеўне Малажай

Нібы пчала на сотах мовы,
нястомна, зладжана і чынна
праз кожны дзень, да слоўка слова
збірала плён свой безупынна.

Яе хапала й на пагоду,
і на слату, і дождж хапала.
З цяплом і сонцам мела згоду
і з кветкай кожнай шчыравала.

Яна, руплівіца ад Бога,
гарэла кожнаю хвілінай,
ішла абранаю дарогай,
сваю ратуючы Айчыну.

Прымала з ціхаю пакорай
удары лёсу і – мацнела.
Трывала, верыла, што скора
ўсё будзе так, як і хацела.

Ці ж ведаў, Божа, хто з смяротных,
што і салодкі мёд – з гарчынай.
А шлях жыццёвы – незваротны,
які ні ёсць – адзін магчымы.

*****

А.В.Шылавай

Ішлі ў жыццё Вы смела, апантана,
пачаўшы шлях з вясны, з сакавіка.
І вось трымае Вашая рука
васьмідзесяты песенны світанак.

Няхай вясна яшчэ Вам доўга свеціць,
бо Вы адна такая ёсць на свеце!

## ШЧЫРАВАНЕЦ

Ул.А.Лебедзеву

Убачыў свет прасветленаю восенню,
Таму для восені – асобы дар.
Ён сёння шле для ўсіх сваю запросіну
як шчыраванец і як гаспадар.

Ён сціплы беларускі  хлопец– Лебедзеў.
Сумленна пераворваў свой папар.
Трымай жа крылы смелым гордым лебедзем
пад сонцам восені, пад небам мар!

*****

В.М.Емельяновіч

Хай не марозіць студзень,
хай не студзіць
Ні цела, ні душы,
ні думак весніх.
Вам цеплыню і шчырасць
дорацць людзі,
што з Вамі ў лад
жыцця спявалі песню.

# СОНЦА ВЕРАСНЯ

З.П.Мельнікавай

Для прыгажуні,
слаўнае спадарыні
З прасветлым іменем
адвечным – Зоя
Пад небам верасня
так шчыра гаспадарылі
Дажджы,
вятры
і сонца залатое.

І журавіннай спеласцю
ядранаю,
Найчыстаю
крынічнаю вадою
Асвечаная,
вераснем абраная,
Ідзе ў жыццё
хадою маладою.

## ФАРБЫ ЛЕТА

Марыі Новік

Быў пацалунак фарбаў спелых,
што лета з восенню ядналі.
Тады ж яе, адкрыта, смела,
Бацькі на свеце прывіталі.

У спеўнай, зладжанай сябрыне
Шчыруе годна, ладна, гожа,
Бо непрыгожа жыць не можа.
…Хай шчасця Божа ёй падкіне!

І хай спялеюць фарбы лета,
І восень хай прыгожыць далі…
Дачку Івана, пэўнім гэта,
На радасць Мар’яю назвалі.

## СОНЕЧНЫ ЖНІВЕНЬ

Станіславе Каралевіч

Трываласць роду, адчуванне волі –
Яно ў крыві і сэрцы ад вякоў.
Палескіх сцежак не забыць ніколі,
Як добрай светлыні палешукоў.

З прыязнасцю, цяплом і шчырай працай
Спакон ішлі да людскасці і славы.
Там выпаў лёс на свет каранавацца,
Як каралеўне, панне Станіславе.

Сцяжынкі тыя на гасцінец звонкі
Ад Вулькі Лаўскай вывелі яе.
Хоць стаўся горад не чужой старонкай,
Ды сэрца там, дзе карані свае.

Дык хай жа сонца жнівеньскага промні
Адсюль, здалёк, ад спеўнае мяжы
З табою будуць і праз век напомняць
Пра шчасце нараджэння, шчасце жыць!

## ДАРОГА ДАВЕРУ

Валянціне Пашкевіч

Святым мясцінам пакланіцца –
Наканаванасць ці то лёс,–
Каб хоць часцінкай прычасціцца
Да чыстай глыбіні нябёс.

І каб сябе адчуць таксама,
Прайсці мяжу праз не магу,
Каб усвядоміць сваю самасць
І зведаць ісціны вагу.

А напачатку было Слова.
А без яго ну хто б што змог.
Чытаем, слухаем нанова
І разумеем ссслова – Бог.

Спакон глядзелі ціха ў неба…
Ад “Ойча наш…”, што ні пішы,
Не наталяла цела хлебам,
Але святлела на душы.

І ў гэтай светласці высокай,
Дзе ні крышыначкі маны,–
Плывуць, плывуць твае аблокі,
Звіняць-пяюць твае званы.

ВІНШАВАННЕ

Мілых нашых, Богам даных,
Як цяпло пасля зімы,
Любых, шчырых і жаданых –
Вас віншуем сёння мы.

Нашы светлыя жанчыны!
Вы для нас – сама Вясна!
Келіх звонкага віна
П’ём за Вас!
За Вас!
Да дна!

Вашы верныя мужчыны.

## БЕЗ ЖАРТАЎ

Алесю Макарэвічу

Расчытвае пісьмёны ён старыя
і так старанна, апантана рые,
здаецца, што зямлю наскрозь прарые
і нам наноў Амерыку адкрые…

Што ж, без прычыны ў даўніну не лезь,
бо там даўно прапісаны Алесь.

## СВЯТА КРАСАВІКА

Лене Леванцэвіч

Ёсць Здзітава ля Ясельды-ракі –
як перліна ў вясеннюю паводку.
Там здзітаўцы паважна праз вякі
жыццём кіруюць, нібы чоўнам-лодкай.

Вітаюць дзень у сонцы зіхаткім,
жывуць у згодзе, ладзе і даверы.
Пярсцёнак просты з правае рукі –
як абярэг для Васіля і Веры.

Якія там вясной красавікі!
Якая сінь бяздонная у неба!
Шчыруюць людзі, як чараўнікі,
каб быў і хлеб, і каб было да хлеба.

Ах, як узнёсла славяць жаўрукі
той красавіцкі трэці дзень адменны –
святлелі ціхай радасцю бацькі:
даў Бог, як свята, ім дачушку Лену.

Характар – як у Ясельды-ракі,
надзейную жыццёвую аснову
дала вясна для Верынай дачкі,
для дарагой крывінкі Васілёвай.

Ані Грыневіч

## 22 снежня

Для гэтага, мабыць, усе і жывём,
вітаючы сонейка ранкам вясновым,
каб самым кароткім снежаньскім днём
да свету прабіцца праменнем жыццёвым.

І што там – завеі!? Што – лёд для ракі!?
Пад сонцам жыцця ўсё адразу растане!
Хай спеліцца шчасце тваё на вякі,
дзяўчынка з-пад Століна – Ганначка-Аня!

У дзень Святой Ганны

Ад спакон святых мясцін,
ад бацькоўскага парога –
сэрцам выбрала – ісці
па жыцці сваёй дарогай.

Не адна ты між людзей,
ды пад знакам Казярога –
няхай снежань твой мяце –
лёс не будзе вельмі строгі.

Хай ляцяць, мінаюць дні –
прыйдзе шчырае каханне
святам светлай дабрыні
для цябе, Грыневіч Аня!

*****

Валянціне Здановіч

За годам год, за хваляй хваля
Жыццё вядзе нас безупынна.
Яшчэ нядаўна была Валя,
А сёння – горда – Валянціна!

І як заведзена ў прыродзе,
Дачушку мае ўжо і сына,
Рука ў руку ідзе з Валодзем
Адной дарогай Валянціна.

І што там слава, што багацце,
Калі ўсё ладна, годна, чынна...
У блаславёнай Богам хаце –
Дарунак сонца – Валянціна.

© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015
© PDF: Камунікат.org, 2015